# ВЯЛІТВА




# VIALITVA


Выходзіць раз на год 1974 Issued once a year

№1 Год I


Беларускі Рэвалюцыйна Дэмакратычны Грамадзкі Часапіс

# 25 САКАВІКА 1918 – 1974

Мінула больш, як паўстагодзьля, калі Беларускія Сацыялісты і прадстаўнікі адВіленскай Рады абвесьцілі Беларусь Незалежнай Дзяржавай. У гэты час у горадзе Брэст Літоўску нашы суседзі і Нямецка Расейскія імпэрыялісты вялі перамовы паміж сабою, дзялілі і зьневажалі наш народ на нашай зямлі.

Юрыдычна моцны Урад БНР ня быў моцным вайскова, амаль зусім ня быў падрыхтаваным весьці партызанскую вайну, якую было найлягчэй арганізаваць. У некаторых мяйсцох быў прадэманстраваны лякальны патрыятызм. Прыкладам можыць быць Дубровіцкая Рэспубліка на паўдні Палесься. Яны нават разьбілі некалькі вайсковых адзінак Украінскіх гайдамакаў. Посьле пайшлі на супрацоўніцтва із Троцкім які прадаў іх Польшчы а 20 год пазьней Савецка расейскае войска далучыла іх да тых самых Украінцаў супроць якіх яны ваявалі падчас рэвалюцыі. Асабліва супроць Палякаў было многа палітычна неарганізаваных збройных выступленьняў. Напрыклад, вёска Ігліца, што ў прытоках заходня-сярэдняй Друці, сяляне разброілі сонных польскіх жаўнераў і выгналі іх із сваей вёскі. Вёска Марочно, што недалёка ад верхняй Прыпяці ня толькі збройна выгналі Палякаў але забітых паразьвешвалі па дарогах да вёскі із надпісямі пагроз.

Два гады пазьней, калі Палякі і Расейцы пачалі барацьбу за поўную акупацыю Беларусі, сытуацыю выкарыстаў генэрал Булак Балаховіч, які арганізаваў Беларускі Урад. На падтрымку Беларускаму Ураду ў Мазыры перад савецка расейскай пагрозай выступілі Случчакі.

Супроць патрыятычна дзеючых Беларусаў і іх Урадаў, акупанты пачалі арганізоўваць прымусова калябаранцкія ўрады із небеларусаў. Супроць БНР расейскія бальшавікі ў Смаленску абвесьцілі Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку Беларусі–ССРБ. Пазьней яны гандлянулі 60 павятоваю ССРБ на Літбел, а як прыйшлі да ўлады, Беларусам падсунулі ленінскі кукіш БССР вялічынёю із шасьці паветаў. Палякі пачалі карыстацца ленінскай тактыкай і штосьці падобнае спрабавалі рабіць у Наваградку на чале із Аляксюком.

Із таго часу калі Вялікае Княства Літоўскае перастала быць дзяржавай; Нашаніўцы, Беларускія Сацыялісты, падчас Расейскай рэвалюцыі 1917 года, зрабілі вялікі рэвалюцыйны крок у нашай гісторыі, хіба што другі посьле Каліноўскага.

Як-жа мы спаткалі Другую Сьветавую Вайну? Трэба прызнаць, што амаль 100% калябарантамі, а не рэвалюцыянэрамі, якімі былі Урад БНР, Каліноўскі. Простае, яноле адначасна прымітыўнае думаньне, што нехта вызваліць тлумачыць наш палітычны сьветапагляд таго часу. Амаль ніхто із Беларусаў не разумеў, што такое „Майн Кампф". Амаль ніхто із нас ня мог дадумацца, што із напісанага Гітлерам „Майн Кампф" карыстаіць многае Сталін. А зусім яно нармальна калі насьледства крыжакоў падобнае да насьледства Татара Манголаў. Вайна паміж Немцамі і Расейцамі зрабілі Беларусь падвойна акупаванай. Амаль кожны Беларус быў бяз меры тэрарызаваны, жорстка пакараны, падзелены. Тэрарызавалі нас па тое, каб мы паддаліся акупантам; былі мы пакараны, што няўмела шукалі дапамогі; падзелены затое, што індывідуальна а не супольна шукалі спасеньня.

Нерэвалюцыйная Беларусь 40 гадоў, у 1944 годзе, на заходняй ускраіне Беларусі нарадзіла калябаранта Немцаў–БЦР. Ленінскі кукіш БССР, які да 1941 года стаўся вялічынёю бомбы бяз рэвалюцыйнага запалу, сталася сястрой нямецкага банкарта–БЦР, якая па сёньня каратаіць, як калябарант расейскіх бальшавікоў.

Гісторыя ня толькі Беларусі, але і іншых нацый, ганарова запісваіць наступным пакаленьням ідэі сваіх рэвалюцыянэраў, адвагі непакорных патрыётаў ад князя да простага ваякі. Усяслаў Чарадзей, Вітаўт, Каліноўскі, Грынявіцкі, Урад БНР 1918 года запісаны, як лепшыя прыклады амаль ва ўсіх гісторыях Беларусі: як БССР, выдавецтвы БЦР, праватыканская БНР на эміграцыі і г. д. Чамуж тады не рэвалюцыйнасьць а калябаранцтва ёсьць асноўным рухавіком Беларуса ў наш час? Чаму яны тады сьвяткуюць рэвалюцыйны акт 25 сакавіка на эміграцыі?

# MARCH 25, 1918–1974

It has been more than a half a century, since Bielorussian Socialists and represantatives from Vilno's Council declared Bielorussia an Independent Country. At that time in Brest Litousk, our neighbors, German and Russian imperialists, were trying to negotiate a piece for themselves, to divide our country among our neighbors and they were insulting our nation in our city.

Council of BNR was strong juridicially but not militarilly, it didn't recognise the importance of the partisan war. Some of our local population did local patriotic acts, like a declaration of Independent Republic in Dubrovicy, in South. Local patriots of Dubrovicy were fighting succesfully against Ukrainians "hajdamaks". Later they begun to collaborate with Trocki who betrayed them by giving their land in to the hands of the Poles. Than 20 years later, Soviet Russian Army made Dubrovicy a part of Ukraine. Peasants of the village Ihlica, that is in tributories of the right middle bank of Druc river, confiscated guns in the sleeping Polish soldiers, than chaised them out of the village for good. Villagers of Marochno, on upper Prypiac destroyed Polish military units and than killed soldiers were hanged on the side roads to the village. On the killed soldiers, they placed warning signs to the rest of the Poles.

Two years later when Polland and Russia began a competing war for Bielorussian territory and Rada BNR left capitol Miensk, general Bulak Balachowich, in Mozyr organized Bielorussian Governoment. When Red Army begun campaign against Bielorussian Governoment in Mozyr, and talks with Poland than neighboring Slucak Region made uprising, formed Slucak Division against Russian Bolshevics.

Against Bielorussian Independence, imperialists from the Fast and the West from ours borders were organizing a puppet governoments from the nonbielorussians elements and Bielorussian collaborators. Against BNR, in Smolensk, Russian bolshevics declared Soviet Socialist Republic–SSRB, with the territory of approximately 300000 square miles. Later, without asking a population, they declared Litbel(Lithvanian Bielorussian Republic), capitol in Vilno, territory of opproximately 100000 sqare miles. When Litbel failed apart, on one third of it's territory, in Miensk was established BSSR(Bielorussian Soviet Socialist Republic). In all those instancess, Lenin with his policies acted as a German Crusader than a marxist. Poland was trying to copy a Lenin's policy. In Navahradak, they tryed to organize a "Bielorussian Governoment" that would match a BSSR.

From the time on, since the Great Litvanian Nation lost Independence and her People his identtty, in March 25, 1918 was a great revalutionary act done, probobly second after it was done by Kalinouski, in 1863.

What happened in 1941, when the World War 11 engulfed our country? At that time we were a nation of collaborators than a revolutionary nation. Bielorussians didn't follow Revolutionary Way of Kalinouski.Liberation! It's all what it was in our minds. And we got it!! Practically, nobody know at that time about Hitler's book "Mein Kampf". Worse than that, moust of us didn't realize that what was written by Hitler in "Mein Kampf", Stalin used Hitler's "ideas" to "govern" a Soviet Russian Empire. A racial war between Germans and Russian bolshevics, in one year made Bielorussia( Great Litvania) a double occupied country by the two despots. In the midst of the war, practically every person was affected by a double terror, punished, divided. They terrorized us because occupiers wanted to subordinate and to use us. We were punished because we didn't know from the beginning how to handle a situation. We were divided because we were in the moust cases a callobarators and not a patriotic nation.

The history of all oppressed nations honor their revolutionary movements, patriotic dids from the king to the soldier. Our history remembers: Usiaslau Charadzej, Vitaut, Kalinouski, Hryniavicki, Revolutionary Act on March 25,1918, The revolutionary period from Kupala writincs. Why than Bielorussian collaborators in the Free World are celebrating the Revolutionary Act of March 25, 1918? Isn't that better for them to celebrate June 27, 1944 and 1596 when was it made a religious union between Great Litvania and Polland. In BSSR, kremlin collaborators too are not celebrating the date of January 1,1919 but only are marking that date in their callender.

# ІНДОЭЎРАПЭЙЦЫ, СЛАВЯНЕ, БАЛТЫ, БАЛТАСЛАВЯНЕ–БЕЛАРУСЫ

Мапа на вокладцы. Абазначана разсяленьне беларускіх плямёнаў, назвы ведамых балцкіх плямёнаў із якімі славяне біялягічна перамешаліся, у рэзультаце чаго паўстала Беларуская Нацыя. Адзначаны фінскі элемэнт, які

# INDOEUROPEANS , SLAVS, BALTS, BALTOSLAVS–BIELORUSSIANS

The map on the cover shows the territory of Bielorussian tribes, also two known Baltic tribes: Holiadz on eastern border and Jacvihi on western border. Also is shown the Finns admixture on nor -



часткова ўліўся да Балтаславян. Народ Неўры Будзіны на поўнач ад Кіева, якія прыпамінаў грэцкі гісторык Геродотус у 500 гадах перад Хрыстовым нараджэньнем. Таксама паказаны сапраўдныя назвы некаторых гарадоў.

## ІНДАЭЎРАПЭЙЦЫ

Ёсьць моўная а не біялягічная„раса" якой яны былі. На мапе, бачына 2 паказаны і падкрэсьлены моўныя расы на зямлі. Уральская, Алтайская, Кітайская, Тыбэцкая моўныя расы(семі) паказаны ў іх частковым разгаліненьні. Індаэўрапэйцы выдзелены асобна.

У дагістарычны час, на паўночных узьбярэжжах Касьпійскага і Чорнага мораў пражываў народ, які гутарыў адной мовай, меў адну традыцыю, веру. У сёняшнім разуменьні гэта была адна нацыя. Называем мы іх індаэўрапэйцамі таму, што за 2500 год да нараджэньня Хрыста адна частка яго разсялілася на поўдзень ад Касьпійскага мора ў кірунку Індыі. Сёньня яны ёсьць часткамі такіх дзяржаў як: Іран, Ірак, Аўганістан, Пакістан, палова Індыі. Другая частка пайшла ў кірунку цэнтральна-паўдзённай Эўропы, адны былі а другія і сёньня ёсьць знанымі як: Армяне, Грэкі, Трасінцы, Ілірыйцы, Славяне, Кэльты, Балты, Тэўтоны, Лаціны. У Эўропе яны калянізавалі народы, якія былі высока цывілізаванымі на той час. У рэзультаце нарадзіліся новыя народы, паміж індаэўрапэйцамі стала ня толькі моўная але і расавая розьніца. У першым тысячагодзьзі да Хрыста і посьле Індаэўрапэйцы пачалі заваёўваць адзін другога, калянізаваць, із Азіі на цэнтральна-ўсходнюю Эўропу уплыў зрабілі татара-манголы, а із поўначы фіны. Да 12 стагодзьзя нашай эры ў Эўропе закончылася нацыянальнае фармаваньне народаў.

## СЛАВЯНЕ

Як і іншыя індаэўрапэйцы прышлі із Эўраазіяцкіх стэпаў і пасяліліся ў вярхоўі ракі Прыпяці. Славянін разумелася, супольнасьць якая ўжываіць адны і і тыя самыя словы. Грэкі называлі славян: склавіны, словене. Немцы называлі—венды. Рымляне называлі—склаві.

thern and moust eastern Bielorussian territory. The questionable people, Neuroi and Beduins, located north of Kiev, were mentioned by the Greek historian Heroditus in 500 B.C., was marked on the map along the Dniepr River. The known old cities with their original names are also shown.

## INDOEUROPEANS

Today the Indoeuropeans are a linquistic and not a biological race. On the map, page 2, marked in bold print, are the linquistic races of the earth. The Ural, Altaj, Chinese linguistic races are shown partly in their linguistic branches. The Indoeuropeans are marked separetly.

In prehistoric times, north of the Caspian and Black Seas lived people that spoke the same language, had the same tradition and same religion. It was a one nation. The name Indoeuropeans was affixed by historians, because in 2500 B.C. one part of this people moved toward India and today the countries are known as: Iran, Iraq, Afganistan, Pakistan and Northern India. The other part movtd toward Europe and some were and still are known as: Armenians, Greeks, Tracians, Ilirians, Slavs, Celts, Balts, Teutons, Romans. In Europe, they colonized the people that were civilized according to that time. As a result, new nations were born that differed racially and in language. The movement of the European population began in the first Millenium A.D., especially toward the Southern direction. The Tartar-Mongols moved from Asia toward Eastern Central Europe. The Northern part of Europe was settled by the Finns, which later, to a degree, was colonized by the Indoeuropeans. In the 12 century A.D. the national character of today's Europe was completed.

## THE SLAVS

As the rest of the Indoeuropeans came to Europe from the Eurasian Steppes, the Slavs settled in the region of the most Upper Prypiac River. „Slovo" in English means word therefore, most historians explain the origin of the name „Slavs" to be people that speak the same words. The Greek called them „Sclavini Slovene"; Germans called them, „Vends"; Romans called them „Sclavi".




Мапа тэрыторыі Першых Славян , якая была дасьледавана рознымі навукоўцамі славянаведы а таксама суседзі Першых Славян

The map of Primitive Slavs territory, according to known historians in Slavic history

- — - — Тэрыторыя першых Славян па Ніедэрле  
  According to Niederle
- — — — Тэрыторыя першых Славян па Язьдзевскаму  
  According to Jazdzewski
- ——— Тэрыторыя першых Славян па Васмару  
  According to Vasmar
- – – – – Тэрыторыя першых Славян па дасьледваньню славянаведаў із БССР, УССР, РСФСР  
  According to Slavic Historical Institutions in BSSR, USSR, RSFSR
- ........ Тэрыторыя БССР  
  Territory of BSSR

Земляробства, пчалярства, паляваньне, зрабіла славян аседлымі, моцна зьвязанымі із прыродай. Яны пакланяліся сонцу, у сьвятынях на даху выразалі мейсца да сонца. Віталі сонца пры яго ўсходзе і праважалі яго пры захадзе. Лажыліся спаць тварам да ўсходу. Мёртвых харанілі галавой і вачыма на ўсход. Верылі, што Палярную Зорку вечна круціць конь, вол, лось і гэтым самым меняіць пару года на лета, восень, зіму, вясну.

Заходнія Славяне а таксама і Балтаславяне(Беларусы) уважалі белае, як чыста сьвятое . Бяроза ўважалася, як сьвятое дрэва якое вяжыць неба і зямлю, яна ўкрашалася цьвятамі, гірляндамі і толькі жанчынамі. Толькі паганскі сьвятар мог выехаць на белым кані, па выкладзеных у лінію лукавых стрэлах каб прадбачыць рэзультат вайны. Із гэтага пачаў называцца вешчы конь. Белы воўк уважаўся, як князь усіх зьвяроў.

Для прыродных зьяў і прыродных дароў Славяне ўзнавалі Багоў:Пярун–Бог на кані кідаіць стрэлы ў благіх людзей. Пяруну займала 7 год і 40 дзён каб прайсьці зямлю наскрозь. Сварог(зваражыць) робіць сонца сьветлым, ён таксама Бог агню, які гарэў цэлы год, за якім апекаваўся паганскі сьвятар. Агонь тушыўся раз нагод летам, які адразу запальваўся. Адсюль назва сваражыць. Рарог-Бог буры. Кідалі штось вострае ў віхор. Сімаргал–Бог буры, хваробы, нешчасьця. Мокаш–Багіня зямлі. Адсюль мокрая зямля маці. Зямля, нават сёньня, паклікаецца, як сьведка пры спорах, прысяга(праглынуць кусочык зямлі), раньняй вясной, лічылася за грэх ускапваць, прабіваць зямлю, таму што набракшая зямля ўважалася кволай.

Яравіт–Бог усяго маладога, Бог вясны. Славяне верылі, што ён едзіць на белым кані, у белым жупане, босы, на галаве вянок із цьвятоў, у левай руцэ трымаіць некалькі птушак. Волас–апякун рагатай жывёлы. Сьветавіт, Руевіт–патроны вострава Руген, што належыў да Балцкіх славян. Дашбог–даець багацьце. Стрыбог–Стары Бог Бацька.

Сацыяльная структура Славян складалася із роду–бацька, сыны, нявесткі, ўнукі. Агнішча было цэнтрам роду. Бацька, акрамя галавы роду выконваў ролю сьвятара. Маткабыла пасрэдніцай паміж галавой роду, нявест-

Farming, hunting, beekeeping made the Slavs a settled and natureloving people. They worshiped the sun; church domes were built with openings toward the sun. They greeted the sun when it rose. The people slept with their faces toward the rising sun; deceased people were buried with their eyes and facec toward the east. They believed that the North Star was forever being turned by horse and deer, and as a result, the seasons of the year turned from the summer to autumn and winter.

Western Slavs, also Bielorussians, accepted white color as clean and holy.The birchwood was respected as a holy tree.This tree with its branches was suposedly binding heaven and earth together. It was decorated with flowers and garlands by women only. The pagan priest predicted a war result when a white horse was riding on linedarrows; if the arrow was touched by the horse then the end of the war would be unfavorable to the Slavs, if the arrow was not touched thne the end of the war would be favorable. The white wolf was considered the king of animals.

For natural events and riches the Slavs had gods. Piarun was the god of thunder. He rode a horse and threw arrows at bad people. It took him 7 years and 40 days to pierce the earth through. Svaroh(magic) made the sun brighter and was the god of fire. The fire burned all year and was taken care of by the pagan priests. The fire was extinguished(not completely) only once a year, in summer which activated, what was considered, magic. Raroh was the god of storm; it was a custom to throw something sharp into the center of a moving wind(tornedo, etc.). Simarholwas the god of misfortune and disiese. Mokash was the god of earth. Even today, when people argue they call on the earth as a witness. It is the custom to swallow a piece of earth as proof of an honest statement or answer. In early spring the swollen earth was considered very weak, therefore digging or making holes in the earth was sin. Jaravit, the god of everything young, the god of spring, was believed by the Slavs to ride a white horse, barefoot, in a white owercoat, with a crown of flowers on his head and holding birds in his hand. Volos was the godof herds. Dashboh was the god that gave riches, and Stryboh was the old father god.

камі і ўнучкамі. Прыгатаўленьне ежы было абавязкам маткі(жонкі галавы роду). Чамусьці сын быў больш заабавязаны перад бацькам чым бацька перад сынам. Жаніцьбы былі пазародавымі. Інтарэсы роду абараняліся, як кроў за кроў. Некаторыя Славяне род называлі: задруга, чалядзь, дружына. Рады едналіся ў племі. Племі вялі войны паміж сабой. Калі адно племя пакарала альбо еднала некалькі плямёнаў тады гэта называлася зямляцтвам.

Войска першых Славян складалася із дружын пешаходаў. Яны былі сапраўднымі партызанамі. Яны зналі, як хавацца, і зналі калі нападаць. Славяне абыходзіліся вельмі добра із палоннымі.

Славяне былі вельмі свабодалюбівымі! Гэта хіба тлумачыць доўгую неарганізава насьць у форме дзяржавы.

## Славяне і іх суседзі

На поўначы і ўсходзе, суседзямі Славян былі Балты. На захадзе Немцы. На паўдні Іранцы(там дзе сёньня Ўкраіна). У кірунку Карпацкіх гор ад славян пражывалі Трасінцы.

Іранцы зрабілі вялікі ўплыў на славянскую мову у рэлігіі. Большасьць із нас не маіць малейшай засьцярогі на наступныя словы, што яны ня ёсьць славянскія, а яны ёсьць іранскія: Бог, рай, сьвяты, чаша, віна, баяцца(грэху), каяцца, гаіцца, сароміць. Ад немцаў Славяне пераняли вайсковыя і камэрцыйныя словы.

## Славянская экспансія

Так называюць і тлумачуць пашырэньне Славян із маленькага куточка Палесься па Цэнтральнай Эўропе. Паганская рэлігія Славян не пакінула аніякай пісьменнасьці альбо вялікай каменнай архітэктуры,каб можна было прасачыць іх гісторыю. Толькі Рымляне, Грэкі а пазьней Немцы, якія мелі пісьменнасьць і напаткалі Славян на межах сваіх імпэрый, пакінулі запісі. Некаторыі гісторыкі думаюць, што суседзі Славян не давалі ім магчымасьці пашырацца аж да 5 стагодзья нашай эры. Такое хуткае размнажэньне і пашырэньле нармальна для грыбоў на Па-

The clan was a social structure ofprimitive Slavs. It included father, sons, daughters-in-law, ang the grandchildren. She was the head of the kitchen. For some reason the son was obligated to his father more than the father to his son. The marriage was outside the clan. The interest of the clan was defended as blood for blood.
The Slavs name for clan was rod, druzyna, zadruha, chaliadz. Clans were united to the tribe and tribes made ziamliactva.

The army of first Slavs was on foot rather than horseback. The smallest unit was called the druzyna. They prefered to fight at night in wooded areas. Prisoners of war were treated best.

The Slavs liked freedom, this explains why for a long time they were not organized into a state.

## Slavs and their neighbors

To the north and east of the Slavs were the Balts, westward were the Germans, south were the Iranian(now Ukrainian). Toward the Carpatian Mountains were the Tracians.

The Iranians made the biggest contribution to the vocabulary of the Slavic pagan religion. Moust of the words are still used today by the Slavs without their realizing that these same words are Iranian, such as: Boh, raj, sviaty, tshasha, vina, bajacca, kajacca, haicca, saromic. From the Germans, they picked up their military and commercial words.

## Slavic expansion

With these two words historians explain the ever increasing territory of the Slavic population. Pagan religion, lack of undestructable architecture and no scripts of the past make difficulties in studying a past history of Slavs. Only Greeks, Romans, and later Germans, that were in contact with Slavs, did some writing about them. Some historians explain that neighbors of the Slavs were controlling their borders of Slavic expansion to 5 A.D. By taking into consideration the average age at that time and such fast expansion over such vast territory has some contradiction for such a statement.

лесьсі але не для людзей у той час, век якіх быў усяго 30 год. Пашырэньне славянскай тэрыторыі па Палесьсю, на захад і ў кірунку Карпацкіх гор пачаўся ў першым тысячагодзьзі да нараджэньня Хрыста.

Па Хрыстовым Нараджэньні пачаліся вялікія перасяленьні інвазіі із Поўначы Эўропы і Цэнтральнай Азіі ў кірунку Дуная і Чорнага Мора. На гэты час Славяне, як аседлы народ разсяліліся далёка на поўнач, поўдзень, захад ад свайго першапачатковага Верхняпрыпяцкага разсяленьня. Славяне, асабліва на поўдзень ад лесастэпавай зоны, у кірунку Карпацкіх гор, апынуліся на перакрыжаваных дарогах Готаў і Татара Манголаў. Палесьсе і далей служыла найлепшай прыроднай аховай і абаронай для Славян. Гістарычныя падзеі ў гэты час падзялілі Славян тэрыторыяльна на паўночных, паўдзённых, заходніх. Моўна, традыцыйна яны былі адна нацыя бяз палітычнага цэнтра. Храналягічна, без асаблівых камэнтараў, разгледзім кожную тэрыторыю паасобна.

1. *На поўдзень ад Славянскага Цэнтра.* Там дзе сёньня Украіна, йшчэ да Нараджэньня Хрыста пражывалі Іранцы( Сіціны а потым Сарматы). У 350 годзе па Нараджэньню Хрыста, тэўтонскае( нямецкае) племя Готы,што пражывала на паўдзённых вастравах Швэцыі заваёўваюць Іранцаў і паўдзённа заходніх Славян. Адна частка Славян не пакарылася Готам дый адыйшла далёка на поўнач, на фінскія землі; каля Ільменскага возера заснавалі горад Ноўгарад дый даўжэйшы час былі знанымі, як Словенцы. Каб зразумець далейшыя падзеі, варта прыпомніць ,што Цюрка Манголы вялі ўвесь час зацятыя войны паміж сабой. Пачынаючы ад другой палавіны 4 стагодзья н. э., племя якое разьбівалі ў вайне пакідала цюрска мангольскую зямлю дый нападала на Прыкасьпійска Чарнаморскія стэпы аж пакуль не напаткала супраціў. Варта прыпомніць, што разьбіваючы адзін другога яны пакінулі астаткі разгромленых плямёнаў, як напластаваньні да паўдзенныхСлавян. Большасьць із гэтых азіятаў быйіпрыўладзе 200 а то і больш год. Хвалі інвазійпрадаўжаліся каля 1000 год у наступныхгадах.370 год н. э.Гуны разьбіваюцьГотаў. 550 Авары разьбіваюць Гунаў. Частка разьбітых Авараў пасяляіцца на сярэдняйВолзе ідаюць пачатак Балгарскай імпэрыі.680 год н.э. інвазія Ха-

The Slavs started to mix and colonize new territories probobly in the first millenium B.C.

In the first centuries A.D. a great migration of the European population began from the north to the south. At that time the Slavs were far away from their first home on the Upper Prypiac. The slavs by the Carpatian Mountains were on the crossroads between the Tartar–Mongols and the Gots. The marshes' along the Prypiac River served as the best protection against Asian nomads. Language and tradition were still the same but there still was no centralized govemoment. According to the geographic territory, the Slavs at that time could be divided into three territories from the center of primitive Slavs 1.Southern territory, 2. Western territory, and 3. Northern territory.

*1. Southern territory.* The Southern territory, now the Ukraine, was populated the yars before Christ by Iranians(some still live in the Kuban region and are known as Asetins). IN 350 A.D. a Teutonic tribe, the Gots moved from the southern islands of Sweden towards the south. They conquered the Iranians, the Western and the Southern Slavic territories. One part of the Slavs did not accept the Gots rule and moved far north onto the Finns territory. They settled next to Ilmen Lake and were known as Slovenians. To understand further events keep in mind that the Tartar–Mongols tribes were fighting among themselves. From the second half of the 4th century A.D. the tribe that lost fight would invade Central Europe. For almoust 1000 years one invader replaced the other. It followed in this way: 370 A.D. the Huns replaced the Gots; 550 A.D. the Avars replaced the Huns, some Huns moved to Volga and established the Bolgar Empire; 680 A.D. the Khazars(some were of the Jewish faith) replaced the Huns, at the end of the same century the Huns, at the end of the same century the Hungarians took over; 915 A.D. it was the Pechenegs, in 1050 A.D. the Kumans, and in 1223, the Tartar–Mongols. In 856–860 A.D., two Norwegian brothers, Askold and Dir, invaded from the north and established in Kiev the Rus principality.

зараў. 7 стагодзье Мадзяры. 915 Печанегі.У 1050 годзе Полаўцы(Куманы) .1223 Мангола Татары. Толькі Аскольд і Дір, нарвэжцы(варагі), у 856–860, якія ў Кіеве заснавалі Русь зьмянілі напрамак гісторыі, асабліва перадмусульманствам. Ня гледзячы на пекла татараманголаў Славяне паўдня былі ўжо за Донам у напрамку Волгі.

Пазьней Славяне пранікли на Волгу дзе із татара мангольскімі расамі паўстаў народ Казакі, якія потым пакарылі радзіму татара манголаў, якая сёньня ёсьць знаная, як Сібір. Па Дунаю і яго прытоках, паўднёвыя Славяне разсяліліся на паўднёвы захад і частку Балкан.

Славяне паўдня ня толькі засталіся жывымі але і пашырыліся. Навукоўцы тлумачуць гэта тым, што Славяне паўдня ня лезьлі да вялікай улады. Як сельскагаспадарчы народ, яны былі патрэбныя для іранскіх, татарскіх і мангольскіх качаўнікоў, якія разьбівалі адзін другога а ў некаторых выпадках амаль вынішчалі. Славяне паўдня цярпелі але перажылі і размножыліся.

*2. На захад ад Славянскага Цэнтра.* Там дзе Заходняя Чэхія, у 3 стагодзьі да нараджэньня Хрыста канчалася тэрыторыя Кэльтаў, якія ў той час засялялі Цэнтральна Паўдзённую Нямеччыну, Паўночную Францыю і Брытанскія вастравы. Цэнтральна Усходняя тэрыторыя Кэльтаў была калянізавана праз Славян. Назва чэшскай правінцыі Багэмія паходзіць ад Кэльцкага племя Боіі. якое тут пражывала. Па Нараджэньню Хрыста, падчас інвазіі Гунаў, із Кубанскіх стэпаў перакачавалі ў вярхоўе Віслы Харваты і Сербы. Гісторыкі думаюць, што гэта былі Іранскія плямёны, якія ў страху перад Гунамі перакачавалі на заходнія землі Украіны і Паўдзённай Польшчы сёньня. Па дарозе да іх далучыліся Славяне і разьбітыя Готы, па дарозе і на захадзе Славяне асімілявалі іх.

У 6 стагодзьі нашай эры, калі нямецкія ўсходнія плямёны адыйшлі на поўдзень пад Італію, Славяне хутка перайшлі раку Эльба(Лаба) дый разсяліліся на поўначы па Балтыцкамузьбярэжжу і вастравах ад Даніі да нізоўя Віслы. Па нейкім часе Сербы перакачоўвуюць за Эльбу, якія пачалі называць сябе Белыя Сербы (Сорбы) Пад канец 7 стагодзьзя Паўднёва Заходнія Славяне пранікаюцьна Балканы.

In spite of all the invasions, the Slavs of the south and Severane from the north crossed the Don River and resettled toward the Volga River. They mixed heavily with the Tartar–Mongols and Iranians and are known today as the Kozaks. Later, the Kozaks conquered the land of the Tartar–Mongols, Siberia.

Historians explain the survival and expansion of these people that the Slavs were settled farmers and were necessary, to the invading nomads as food suppliers. Also, they were not looking for power which helped them to survive. The today Slavs of the South were racially different fom the primitive Slavs because of the mixture of the Asian blood and culture.

*2. Western Territory.* In the 3rd century B.C. a Celtic tribe, Boii, settled on today's Western Czechoslovakia, it was later colonized by Western Slavs. The name of the province Bohemia is of Celtic origin.

During the Huns invasion, the Serbs and Kroation moved from the Kuban Steppes to Upper Vistula. Historians think that these people were Iranian tribes that ran to safer territory before the advancing Huns, on their way they were joined by some Slavs and Gots. On Slavic territory, the Kroatians and Serbs were forced to use the Slavic language.

In the 6th century A.D., when the German eastern tribes moved south toward Italy, the Slavs crossed the river Elba(Laba) and moved toward the Baltic Sea. They resettled from Denmark to the Upper Vistula. The Serbs crossed upper Elba and began to call themselves the White Serbs. At the end of the 7th century, the Southwestern Slavs moved to the Balkan peninsula.

3. *На поўнач ад Славянскага Цэнтра.* Суседам Славян на поўначы былі Балты. Мяжа Балтаў із Славянамі праходзіла вельмі блізка на поўнач ад Варшавы, па Ясельдзе, пад Кіеў, па рацэ Сыйм за горад Курск аж пад Дон.

Збліжэньне Славян із Балтамі было вельмі рана, па суседзку,без шалёных інвазій. Такое збліжэньне можна вытлумачыць тым, што Балты і Славяне былі Індаэўрапэйцы дый мелі вельмі многа супольнага ў першых стагодзьях іхняга разсяленьня. Рэзулітатам збліжэньня было нараджэньне Балтаславянскай Нацыі ад вярхоўя Прыпяці да Валдайскага ўзвышша, там дзе выплываіць рака Волга із яе прытокамі; ад горада Вільні да Мажайска; із пад Пскова пад Кіеў, у кірунку Курска аж да Дону дый у напрамку Разані.

Вялікая Літва абеднала бяз войнаў дасьпелую біялягічна і палітычна Нацыю Балтаславян у адну дзяржаву, плямёны якой былі падзелены варажскімі князямі.

Непакорныя Готам Славенцы, у 4 стагодзьі нашай эры пасяліліся каля возера Ільмень. Із фінскімі плямёнамі яны стварылі новы Славянафінскі гібрыд, які пашырыўся да Белага мора, Фінскага заліва і да ракі Акі. Сёньня яны называюць сябе Расейцамі.

Пачынаючы ад 10 стагодзьля н. э., нямецкі „дранг нах остен” змусіў частку Балтыцкіх і Заходніх Славян перасяліцца да Паўночных Славян. Некаторыя гісторыкі думаюць, што назва Літва паходзіць ад пераселеных із заходу Люцічаў у басэйн ракі Нёман.

У 9 і 10 стагодзьях н. э. нарвэжцы(варагі, браты Готаў), пранікаюць на землі Паўночных Славян. Перш яны замацаваліся на землях Славенцаў, скуль пачалі заводзіць сваё парадкі. Пазьней яны пранікаюць на землі Паўдзённых Славян, якія былі акупаваны Хазарамі. Кіеўляне былі задаволены, што дружыны( варангі) із тэўтонскага роду пазбавілі іх ад Хазараў. Праз сваю уладу, асабліва царкоўнай–праваслаўем, яны як-бы зьвязалі эвалюцыйна супрацьлеглых Славян( біялягічна і культурна) у адну ўсходнеславянскую масу,якую і па сёньня, многія без разбору, называюць Расея, Русь., Усходнія Славяне.

Славян згодна геаграфічнаму разсяленьню на працягу гісторыі ад

3. *Northern Slavic Territory.* North from the home of the first Slavs were the Balts. Bordering theSlavs ona linewas Warsaw, Zitomer, Kiev, Kursk, toward the Don River.

The Slavs begun intermingle with the Balts very early, history knows of no warsbetween them Such a close relation could be explained because bouth were Indoeuropeans and in earlytime had many things in common. As a result a mixture of Balts and Slavs gave birth to a Baltoslavic Nation(in history were known as Great Litvanians and today occupiers name them Bielorussians) which extended from the Upper Prypiac to the Upper Volga; from Pskov close to Kiev, from Vilno toward Mazajsk, Kursk, and Don.

The Great Litvanian Principality, with the 500 years history was a political result from the biological process that united Baltoslavic principalities in one state, as one nation.

Slovenians by mixing with the Finnish Tribes, established most northern Slavic nation that is today known as Russia. It occupies the territory from the Lake Ilmen, toward the Finnish Gulf, the White Sea and toward the middleoftheOka River.

At the beginning of the 10th century, German „drang nach osten" forced some Baltic Slavs to move to the Northern Slavic Territory. There is a theory(Czechs) that the name Litvania originated from the Slavic tribe Ljucichy that moved from the Elba region to the Nioman Basin.

In the 9th and 10th centuries, more Scandinavians settled on Slovens territory. From here they started to spread their power over the Northern Slavs. When they appeared on Southern Slavic territory in Kiev, the Slavs welcomed them as liberators from Khazars. In Kiev, the Scandinavian principality was mamed Rus. They subordinated the other Slavic principalities that were ruled by the Varag princess. The Greek Orthodox faith was and still is, to some extent, the instrument of unityof so called „eastern" Slavs thatdiffer so much racially, linguistically, and in charachter.

**According to the geographic resettlement during history, from their primitive home**

першай Бацькаўшчыны трэба падзяліць наступна:

*Цэнтральныя Славяне:* Беларусы, Палякі, Украінцы.
*Заходнія Славяне:* Палабскія і Балтыцкія, Чэхі, Славакі.
*Паўдзённыя Славяне:* Балгары, Басьнійцы, Македонцы, Сербы, Словенцы, Харваты, Чарнагорцы, Славяне Грэцыі, Албаніі, Аўстрыі, Опсікон.
*Паўночныя Славяне:* Расейцы.
*Усходнія Славяне:* Казакі, Сібіракі.

## Калянізаваныя Славяне

*Прыдунайскія Славяне:* Называлі сябе Славінцы. Там дзе цяпер Румынія, у 3 стагодзьі н.э. Рымляне заснавалі сваe гарнізоны каб абараняць паўночную частку сваей імпэрыі. На працягу стагодзьяў яны асімілявалі Славян. У Румынскай мове па сёньня ўжываіцца каля 4 тысяч славянскіх слоў і выразаў.

Перад тым, як Славяне пасяліліся на тэрыторыі сёняшняй Мадзяршчыны, тут пражылі ў сумежжы Ілірыйцы і Трасінцы( індаэўрапэйцы) а пазьней Іранскае племя Ізыгі. Па ўсіх інвазіях тэрыторыя сталася Славянскай, аж пакуль у 896 годзе н.э. сюда перакачавалі Мадзяры( угра татарская зьмесь). Славяне былі асіміляваны, Славянская кроў і мова ёсьць часткаю Мадзярскага Народа.

Такім чынам Малдаване, Румыны і Мадзяры аддзялілі Паўдзённых Славян ад Цэнтральна Заходніх Славян.

*Палабскія і Балтыцкія Славяне.* У першых стагодзьях другога тысячагодзьзя н.э. апынуліся паміж каталіцкай Нямеччынай, каталіцкай Польшчай і Чэхіяй. Намаганьне Немцаў, Датчань і іх памагатых Палякаў і Чэхаў прышчапіць каталіцызм Балтапалабскім Паганскім Славянам не ўдаваўся. 10, 11 і пачаткі 12 стагодзьяў былі добрымі для „паганскіх" Славян каб шукаць нешта лепшага ў Рыме. Пагэтаму яны адстайвалі да апошняга сваю незалежнасьць і веру перад крыжаносцамі. Падчас крыжацкіх інвазій Балтыцкія і Палабскія Славяне былі згуртаваны ў наступныя дзяржавы: Сербы, Люцічы, Ободрыты, Раняне, Памеране.

it is possible to divide the Slavs into categories:

*Central Slavs:* Bielorussians( Great Litvanians), Poles, Ukrainians.
*Western Slavs:* Polabian and Baltic Slavs, Szechs, Slovacs.
*Southern Slavs:* Bulgars, Bosnians, Macedonians, Serbs, Slovonians,Kroatians, Black Mountaineers, Slavs of Moldavia, Greece, Albania, Austria, Opsicon, Hungary, Rumania.
*Northern Slavs:* Russians.
*Eastern Slavs:* Cossaks, Siberians.

## Colonized Slavs

The Danube Slavs called themselves Slovincy. In the 3rd century Romans established military garrisons to guard their empire in what is today known as Rumania. As centuries passed the Roman language became traditional with a mixture of 4000 Slavic words and expressions.

Before the Slavs settled in Hungary, the territory was divided between the Tracians, Ilirians and the Iranians. Then, for centuries it was the home of the Tartar–Mongol invaders with a growing Slavic population. The last invader from the Ural region Through the Ukraine were the Hungarians, who colonized the Slavs and adapted many Slavic words into their language.

The Moldavian, Rumanians and the Hungarians, through colonization of the Slavs along the Danube River, divided the Balkan Slavs from the rest of todays Slavs. Between the 10th and 12th centuries the Polabian and Baltic Slavs were in vices between Catholic Germans, Catholic Poland and the Szech. Rome tried unsuccessfully to change the pagan religion of most of the Western Slavs to Catholicism. The 10th, 11th, and 12th centuries were good for the ,,pagan'' Slavs, they had no intention of looking for something better in Rome. It was an organized military criminal invasion by the German Crusaders against the ,,pagan'' Slavs. To that time the tribes of ,,pagan'' Slavs were organized into five states.

1. Дзяржава Ободрытаў. На поўнач было Балтыцкае Мора; племя Вагры кантралявала частку бацькаўшчыны Тэўтонаў, там дзе цяпер горад Кіль; племя Палабы і Смальніцы пражывалі на правым беразе ракі Лаба( Эльба), амаль пры гораду Гамбург, на левым беразе Лабы пад Гамбургам пражывалі Дравяне, якія межавалі із Саксонцамі; усходняя мяжа праходзіла каля дзяржавы Люціч аў. Манархія была формай дзяржавы. Горад Любэк быў вялікім гандлёвым марскім портам і сталіцаю. Дзяржава працьвітала гандлёва і палітычна ў 11 і палавіне 12 стагодзьяя н. э. Знанымі гарадамі былі Старaград, Ратібор, Велеград, Варно, Загрын, Ленчын.

Трагедыя пачалася калі Ободрыцкі прынц –беженец Готшальд вярнуўся із Даніі, дзе ён быў жаніўся на Дацкай прынцэсе і прыняў хрысьціянства. У краіне пачаўся раскол, паўстаньні. Крыжакі пачалі рабіць інвазіі. Першую крыжацкую інвазію Датчан і Саксонцаў, Ободрыты адстаялі каля Дубіна, Раняне дапамаглі на моры. Яны разьбілі Дацкія марскія сілы. Другая інвазія крыжакоў была спусташаючай для дзяржавы Ободрытаў. Багатую краіну ахапіў быў голад. Ободрыцкі князь Ніклот быў змушаны прыняць хрысьціянства. Насельніцтва не пайшло прыкладам свайго князя. Зламаўшы дзяржаву Ободрытаў, крыжакі праламалі дзірку ў крэпасьці перад немцамі. Шаленства апэтыту „дранг нах остэн" павялічыўся за большымі дабычамі для немцаў і Рыму, якія абласавалі Славян і Балтаў сваімі ахвярамі.

2. Дзяржава Люцічаў. На поўнач даходзіла да Балтыцкага Мора, на паўдні межавала із Сербамі, на захадзе із Ободрытамі, на ўсходзе із Памэранцамі. Знанымі гарадамі былі: Рэтра, Бранібор, Дымін, Расток. Дзяржава была Фэдэральнай Рэспублікай некалькіх плямёнаў. Бог Сворожыць еднаў плямёны. Сьвятым мейсцам была Сьвятыня Радгожч, на тэрыторыі племя–Ратаране. Магутным было ў 10 і 11 стагодзьях н. э. Ободрыцкі рэнэгат Ніклот дапамагаў крыжаносцам, як калябарант пакарaць Рэспубліку Люцічаў. Па крыжацкаму спусташэньню, частка Люцічаў перасялілася на тэрыторыю сёняшняй Беларусі. Там дзе рака Спрева закручваіць із паўдня на захад, тут пражывала племя Люціцкай Рэспублікі Спрэвяне. На іх тэрыторыі была вёска Бралін, якую немцы пазьней разбудавалі ў сваю сталіцу Бэрлін.

1. State of Obodrites. This was the most northwestern state of the Slavs. The Vagrians tribe controlled part of the territory of the first Teutonic home. The Polabian and Smolincy tribes controlled the right bank of the Elba, next to the city of Hamburg. The Draviane controlled the opposite side of Elba( Laba). Monarchy was the form of government. Lubeck was the capital and busy seaport. The state was strong politically and economically in the 11th and the first half of the 12th century. The known cities were Starahrad, Ratibor. Velehrad, Varno, Zahryn, and Lenchyn.

Tragedy begun when the Obodrite prince, Gotshald, returned from Denmark with his Danish princess. Gotshald had converted to christianity. In the country uprising begun. The first crusade of Danes and Saxonians against the Obodrite state was a failure. The second invasion was devastating. Hunger and death was brought on by the Pope's crusaders to the Obodrite state. The Obodrite ruler, Prince Niclot was forced to accept christianity, but the population did not follow its ruler. By conquering the Obodrite state the German crusaders broke a hole in the wall of the Slavic western border. The appetite of the ,,drung nach osten" was increased.

2. State of Ljucichy(Veletians). The northern border of this state was the Baltic Sea, south was the state of Sorbs, to the east was the state of Pomerans, west was the state of Obodrites. The known cities were Retra, Branibor, Dymin, and Rostok. The form of governoment was a Federal Republic of Independent Tribes. God Svorozyc inciteof the Holy Church in Rodhozch, on the tribalterritory of the Rotorans, was the uniting spirit of the other tribes of the Republic ofLjucichy. It was strong in the 10th and 11th centuries. The Obodrite renegate, Niclot, acted as a German collaborator who helped the Catholic fanatic crusaders to conquer the Republic ofLjucichy. One part of the Ljucichy tribe moved to the Bielorussian(Great Litvanian) territory. The village, Bralin, on the territory of the tribe Spraviane was later built into the German capital, Berlin.

3. State of Rana. This state was the island Rajana, Ruhen(Rana) in the Baltic Sea, itwas locatednorth of the Republic of Ljucichy and it was the first Slavic sea state power. A monarchy from the local dynasty was the form

3. Дзяржава Ранянь. Знаходзілася на востраве Рана(Рюген), Балтыцкае Мора, напоўнач ад Рэспублікі Люцічаў. Была адна із першых Славянскіх марскіх дзяржаў. Марскі флот Ранянь быў моцным у Балтыцкім Моры. Знанымі гарадамі былі: Аркона(сталіца), Рунна, Карэніца. Формай дзяржавы была манархія із мяйсцовай дынастыі. У 1168 годзе Датчане пакарылі дзяржаву Ранянь.

4. Дзяржава Памэранцаў. Із захаду на ўсход працягвалася ад ракі Водра да нізоўя ракі Віслаı: на поўначы абмывала БалтыцкаеМора; на поўдзень межавалі Палякі. Формай дзяржавы была манархія, кіравалі дзьве дынастыі. Перш сталіся ахвярай Польскага каталіцызму а потым нямецкіх крыжакоў. У трохкутніку Вісла, на захад ад гораду Стоўп, Балтыцкае Мора захавалася да нашых дзён племя Кушубы.

5. Дзяржава Сэрбаў. У вярхоўі прытокаў ракі Лаба(Эльба). Формай дзяржавы была манархія. Моцнай была ў 7 і 9 стагодзьях. У 10 стагодзьі акупавалі нямецкія крыжакі, якія ператварылі насельніцтва ў рабоў. Знанымі гарадамі былі: Губін, Будышын, Дрыждзяны, Мейсэн, Ліпск, Цэйц, Лунаў. Із васьмі плямёнаў, толькі Лужычане дажылі да нашых дзён. Тлумачуць гэта тым, што Лужычане пераходзілі часта із рук Нямецкіх прынцаў да рук Чэшскіх каталіцкіх прынцаў.

Трэба зацеміць, што Палабскія і Балтыцкія Славяне так і не прынялі хрысьціянства. Крыжакі навезьлі Галяндцаў і Фрэзыйцаў, а таксама многа Немцаў, якія ў той час былі на высокім падёме ў сельскай гаспадарцы і індустрыі. Спосабы крыжакоў ня былі хрысьціянскімі.

## Асыміляваныя Славяне

Славяне якія пранікλі на тэрыторыю Аўстрыі, Албаніі(астаткі Ілірыйскага народа) Грэцыі–такія плямёны, як Ваюніты, Мілінгі, Эрзарыты, Славяне вострава Крыта; а таксама Славяне Опсікона ў Сярэдняй Азіі(там дзе Турцыя) былі асыміляваны народамі якія тут пражывалі.

## Тэорыя Русаў

Фіны называлі і сёньня называюць Швэдаў „Руотсі", Эстонцы называлі і называюць іх „Роотсі". Словенцы альбо сёняшнія Расейцы якія пасяліліся на фінскіх землях, дазналіся

of government. Known cities were Akrona, the capital, Runa, and Karenica. In 1168, Denmark conquered the Rana state.

4. State of Pomeranians. The state of Pomeranians stretched between the lower Oder and Vistula Rivers, next to the Baltic Sea. Poland was the southern neighbor. The form of government was a monarchy. It was first victimized by Polish Catholics, and then by Germans. Only the Kushub tribe survives today.

5. State of Sorbs. The Sorbs territory was in Upper Elba. The govrnment was a monarchy that was strong in the 7th through the 9th centuries. In the 10th century, it was occupied by the Germans, and the population was turned into slaves. Known cities were Hubin Budishyn, Drixdziany, Meisen, Lipsk, Zeiz, Lunau. The state had united 8 tribes, only the tribe Luszici still survives. Their survival is explained because it was interchangeably owned by the Czechs and German Catholic princes.

In conclussion, the methods of the Catholic church to christianize the Polabian and Balt c Slavs by bringing Dutch, Frisian and German People to these areas.

## Assimilated Slavs

Slavs that were trying to resettle in Austria, Albania(the rest of Ilirians), in Greece (such tribes as Vajunity, Milinhi, Ersarits), Syprus Slavs, Slavs of Opsicon(Turkey) were assimilated by the native populations.

## Theory of Rus

The Finns used to call and still call Sweden ,,Ruotsi". Estonians called and still call Sweden ,,Rootsi". Slovenians or todays Russians, that were settled on the Southern Fin-

# ІЗ ЛІСТОЎ У РЭДАКЦЫЮ

*ПАВАЖАНЫ Сп. МАРКОЎСКІ*

25.11.1973 г. атрымаў ад Вас Беларускі Грамадзкі Часапіс „Веча" №1(19). Вялікі дзякуй. У сваім часапісу Вы беларускую інтэлігенцыю сталінскага пэрыяду называеце „грынгорнс" г.зн. малакасосамі. Йшчэ далей Вы чамусьці цьвердзіце, што беларускае насельніцтва ненавідзіць нямецкіх калябарантаў, г.зн. сапраўдных патрыётаў нашай бацькаўшчыны, якія паднялі зброю супроць юда–камуністычных „поработителей" і іх „опричников– партизан".Вы праўдападобна, у той час ня былі на Беларусі і не бачылі таго, што там тварылася. Не бачылі, як насельніцтва із радасьцю і надзеяй на „избавление" спатыкалі немцаў. На тэрыторыях акупаваных немцамі, бальшавікі пакінулі сваіх надзейных чакістаў; да гэтага на парашутах закідалі спэцыяльна трэніраваных дывэрсантаў. Гэтыя забойцы па заданьню Масквы забівалі антыбальшавікоў, тэрарызавалі насельніцтва, абазьлялі яго супроць немцаў. Супроць такіх „бесчинств" насельніцтва арганізавала самаабарону і паліцыю. А вы іх называіце здраднікамі. Пагэтаму Вы ёсьць рупарам сыяністаў, якія не жадаюць асвабадзіць народаў якія яны пакарылі. Вы пішыце, што БЦР была арганізавана немцамі трыццаць год таму назад. А хіба БНР ня была арганізавана пад час ваеннага хаоса, у канцы першай сьветавой вайны із тыміж немцамі? Розьніца паміж БЦР і БНР у тым, што БЦР памагла немцам зьнішчаць ненавіснага ў гісторыі „поработителя", а БНР у гэты час дзесь спакойна сядзела і чакала, калі яе пазавуць кіраваць краінай па сацыялістычнаму рацэпту жыда К. Маркса(БНР мела праграму сацыялістаў). Трэба йшчэ дабавіць, што ў БНР не засталося ані аднаго выбранага народам прадстаўніка. Апякуны архіваў БНР, як Захарка, Абрамчык і др. ня могуць прэтэндаваць на званьне народных прадстаўнікоў і абліваць памыямі сапраўдных беларускіх патрыётаў,–усіх гэтых паліцаяў, бургомістраў і салдат краёвай абароны. Сапраўдныя гаспадары сьвету зрабілі БНР легальнай таму каб прадаўжаўся разлад паміж беларускімі патрыётамі, разумеючы, што сама БНР ёсьць толькі назва. Украінцы, беларусы і іншыя народы стараліся мець незалежнасьць а ў першаю чаргу асвабадзіцца ад чырвонага іга. Пагэтаму, яны былі гатовы біць бальшавікоў хоць–бы ў саюзе із дзьяблам. Гатовы былі вырваць із корнем гэтую чырвоную чуму, за тое, што бальшавікі пад кіраўніцтвам інтэрнацыяналістаў перарабілі наш народ у маўклівы статак жывёлы Гэта страшнейшая юда–камуністычная сыстэма штомінутна нараджаіць ворагаў сваей сыстэмы, Таму што гэта сыстэма ёсьць антычалавечаская і драконаўска–рабаўладальніцкая а таксама чужая духу праўды. Толькі пагэтаму цэлыя савецкія арміі здаваліся ў палон ворагу. Ня віна іх у тым, што нацысты прышлі да нас, як акупанты і не зразумелі пажаданьні савецкіх рабоў. Гэтая трагедыя у асноўным рашыла ход ваенных апэрацый і прыблізіла канец немцаў. Гэтыя ваеннапалонныя на 80–90% прасілі ў немцаў дазволу ісьці дабіваць камуністычны рэжым. А Вы іх называеце „изменниками"! Камуж яны здрадзілі? Хіба гэта здрада, калі яны хацелі зьнішчаць маскоўскіх палачоў на чале із Кагановічам, Бэрыя, Мікаянам, Молатавым, Сталінам і тысячы болш дробных „бучеров"? Іх прозьвішчы гавораць самі за сябе, хто яны гэтыя гарбаносыя „вождй–демократы". А справы іх паказваюць тое, чаго дабіваюцца іх гаспадары, усе гэтыя: Ротшыльды, Мэйеры, Оппэнгаймэры, Варбургі, Рузвельты, Кіссэнджыры і тысячы ім падобныя. Я не з-

наю, хто Вы ёсьць, але судзячы па Вашых выступленьнях, Вы ня ёсьць беларускі патрыёт. Чаму БНР не магла прыйсьці хоць да якога пагадненьня із БЦР, у імя дасягненьня шчасьця для Радзімы? Бачна, што ўсе яны есьць эгаісты і ўладалюбцы якія ганяюцца за славай і нажывай. Тут за мяжой можна паказваць, як павінна сябе весьці беларуская інтэлігенцыя. Можна абзываць чым хочыш, нават аблаіць. ГЭта цяпер лічыцца модным, бо камусьці патрэбна не аб'еднаньне а развал і споры ў радох сапраўдных антыкамуністаў і патрыётаў. Вы, доктар Маркоўскі радзіце беларускай інтэлігенцыі і актыву пашыраць беларускую матэрыяльнаю ідэю. Пад гэтым выражэньнем я разумею–беларускі нацыяналізм. Чаму- ж тады немцаў ругаеце за нацызм? Чаму вы ў сваім журнале ня пішыце праўду аб тым, хто арганізоўваў, фарміраваў і кіраваў усімі рэвалюцыямі–пачынаючы із ангельскай, францускай а пазьней лютаўскай і кастрычніцкай у Расеі, у Гішпаніі і другіх мейсцах? Чаму баіцеся назваць арганізатараў усіх важнейшых войнаў і хто іх фінансіраваў? Чаму не пакажыце міравых злачынцаў, якія й арганізоўвалі і фінансавалі на цэлым сьвеце рэвалюцыянэраў, анархістаў, тэрарыстаў? Чаму не пакажыце із якою мэтаю рабілася і робіцца? Хіба вы не знаіце такіх сьветавых змоўшчыкаў як: Ротшыльд, Шыффы, Варбургі і тысяча другіх із рода сыноў Ізраіля ў асноўным? Хіба Вы не знаеце іх астатняй мэты–адзінага сьветавога царства на чале із „выбраніньнікамі Божымі"? На заканчэньне скажу, што я сам памагаў немцам біц юда–камуністаў на Радзіме. Я быў, ёсьць і буду ворагам чырвонага рабства над нашым народам. Вызваленьне само ня прыдзе да народа без барацьбы. Толькі не чакайце таго, што гэты гарбаносыя дэмакраты" дапамогуць БНРаўцам прыйсьці да ўлады. Яны ня хочуць ані із кім дзяліцца. Пагэтаму выходзяць Гітлеры. Ругаючы БЦР і нашых барцоў за свабоду, Вы зьневажаеця і мяне асабіста. Пагэтаму прашу у наступны раз не прысылаць Вашага журнала мне. У гэтым пісьме высылаю за перасылку на 54 цэнты паштовыя інтэрнацыянальныя маркі.

На гэтым канчаю.

*С прйветом П. Йв. С.*

*Рэдакцыйны Адказ*

***Заўвага.** Прачытаўшы такога ліста, найбольш ізДП пагодзяцца, што знайшоўся хоць адзін чалавек, што прабраў Маркоўскага так, як гэта „патрэбна". Ліст быў напісаны па расейску. Даўно заўважана, што савецка–беларускі інтэлігент розьніцца ад беларускага мужыка толькі тым., што ён можыць лепш чытаць, пісаць. Сваім палітычным паглядам ён не адскочыў вышэй сваіх бацькоў( бязумоўна нашы прашчуры былі мудрэйшымі). А цяпер разгледзім душу і анатомію ліста.*

Савецкая інтэлігенцыя была „грынгорнс" не таму, што яна проста была савецкай, а таму, што яна ня мела жыцьцёвай практыкі, да гэтага яе адукацыя была агранічанай, аднабокай, фальсыфікавана( як гуманітарныя навукі).

Называць сапраўднымі патрыётамі свае бацькаўшчыны тых хто пайшоў із зброяй на службу немцам, расейцам, палякам можыць толькі той чалавек які чуў, што нейдзязвоняць званы толькі не знаіць у якім баку. Слова патрыёт „Амэрыкэн Калэдж Дыктчэнэры" тлумачыць вось так: „асоба якая любіць сваю краіну, аддана падтрымоўвае і абараняе яе інтарэс". А вос, як тлумачуць „савецкія" энцыкляпэдыі: „патрыятызм( ад грэцкага–патрыс–бацькаўшчына)–любоў да бацькаўшчыны, свайго народу, да найлепшых нацыянальных традыцый." Да гэтага дзесятка слоў, чырвоныя нацысты звычайна дабаўляюць больш сотні слоў псыхапацкіх мрояў таварыша Суслова, каб вытлумачыць „сацыялістычны" патрыятызм і замаскаваць расейскі нацызм. Хоць словы патрыятызм і бацькаўшчына разумеліся аднолькава, сёньня мы іх розьнім, хаця яны, як тыя плянэты круцяцца каля аднаго і таго самага сонца. Слова нацыя далучылася пазьней да патрыятызма і бацькаўшчына. Нацыю мы разумеім калі тысячы альбо міліёны людзей ўжываюць адну і тую самую мову, лучыць адна і тая самая культура,

традыцыя, раса альбо расавыя ці этнічныя зьмесі. Бацькаўшчына гэта тэрыторыя дзе нацыя пражываіць. Патрыятызм гэта няпрымусова маральны–самапачуцьцёвы абавязак да бацькаўшчыны і яе волі, пашана нацыянальнай культуры і каштоўных нацыянальных традыцый. Як бачым: нацыя, бацькаўшчына, патрыятызм ёсьць трохкутны фундамэнт і аснова дзяржавы пабудаванай на нацыяналным прынцыпу. Такая дэфініцыя патрыятызма адпавядаіць тым народам, што страцілі незалежнасьць недаўна альбо маюць незалежнасьць. У нашых абставінах, сама ахвярная мараль патрыятызма нарадзілася( адраджэньне) калі акупант нашае Бацькаўшчыны зрабіў наш народ бесправўным; пачаў зьдзекваццa над нашай культурай і гісторыяй; па зьвярынаму разрываіць і гандлюіць нашай тэрыторыяй дый эканамічна эксплятуіць. Бяда Беларускага Патрыятызма ёсьць тая, што ў многіх выпадках ён ёсьць інтуітыўны, асабліва на Бацькаўшчыне дый тых што ёсьць параськіданымі па Сібіру і Казахстану. Пагэтаму бачым зло толькі не знаем, як із ім справіцца і чым замяніць; а ў крытычных мамэнтах робім не патрыятычныя паступкі, нават злачынствы. Каб патрыятызм зрабіць арганізаваным патрэбна адукацыя, патрэбна ясная і зразумелая ідэя, патрэбна палітычная арганізаванасьць! Гэтага вымагаіць той факт, што самародкавым патрыётам будзіць толькі той у каго патрыятычныя інтуіцыя і інтэлігентнасьць згарманізаваны, а такіх малы. У большасьці із нас інтуітыўны патрыятызм патрабуіць адукацыі. У сёняшніх абставінах, радыё можыць адукаваць патрыятызму найлепш, асабліва тых два міліёны Беларусаў, што ёсьць параськіданы па савецка расейскай імпэрыі. Беларус якога змусілі пакінуць Бацькаўшчыну вычуваіць разлуку найбольш а гэтым самым ёсьць найлепшы кандыдат у шэрагі патрыётаў. Расейскія і гітляроўскія янычары, прафэсыянальныя калябаранты, лювэнскія місыянэры могуць толькі калечыць патрыятызм.

Паталягічны патрыятызм, як хвароба пачаў сваю дыструкцыю тады, калі адзін народ пачаў эксплятаваць другі альбо некалькі іншых народаў. Усё гэта рабілася для дабра свайго народа, для дабра пануючай клясы ў імпэрыялістычнай дзяржаве, для славы цароў і каралёў, для задаваленьня рэлігійнага фанатызма альбо ў ненавісьці да іншай расы і традыцыі. Сёньня паталягічны патрыятызм у некаторых народаў ёсьць астатак імпэрыялізму: як у Расеі ленінскі бальшавізм із яго выдумкай „сацыялістычны патрыятызм", пекінскі нацыянал камунізм із маотсэтунаўскай фантазіяй. Ленін добра бачыў непарадкі ў царскай Расеі. Аднак, ён ня мог асвабадзіцца ад царскіх фантазій завалодаць сьветам, аніяк ня мог ён асвабадзіцца ад супарнацыяналістычнага шаленства расейскіх супарпатрыётаў. І вось ён пачаў падлазіць да мёртвага Маркса, пачаў дапасоўваць і дабаўляць свае супарнацыяналістычныя прарасейскія ідэі. Ленін надзеіўся, што калі ён забясьпечыць хлебам і сольлю галодную расейскую імпэрыю тады народы імпэрыі здадуць свой лёс у рукі крамлёўскіх манапалістаў: адмовяцца свайго патрыятызма, пакінуць сваю культуру, заменяць усё на расейскае. Пагэтаму спатрэбілася да граматычнага назоўніка „патрыёт" дабаўляць прыметнікі альбо рабіць цэлыя сказы і бязглуздыя тлумачэньні каб замаскаваць, падарваць маральны нацыянальны фундамэнт і аснову іншых народаў–патрыятызм. Пагэтаму не бяз прычыны ў СССР слова „Родйна" ўжываецца 99 раз а Бацькаўшчына толькі адзін раз.

У трыццатых гадах, у нямецкіх патрыётаў патрыятызм захварэў на рака, які пачаў разьядаць Эўропу. Для такой хваробы былі ўсе перадумовы, як: нацыянальнае паніжэньне немцаў праз аліянтаў. Хоць не дакладна навукова але быў распазнаны факт, што пэўныя народы ёсьць больш прадуктыўнымі, больш здольныя чым іншыя народы. Быў распазнаны той самы факт, што сярод расьлін і жывёлы. Чалавек здаўна пачаў выводзіць новыя расьліны альбо вынішчаць што давала малы даход. Аналёгія да людзей была простай і зразумелай для сярэдняга немца. Нацызму і Гітлеру адчынілі дарогу да Рэйхстагу. Нямецкі паталягічны патрыятызм–нацызм пакінуў незабыўныя шрамы для чалавецтва.

У Леніна не магла нарадзіцца гітляроўская ідэя вынішчаць фізычна цэлыя народы із-за расы, аднак яго насьледства практыкуіць вынішчэньне народаў за іх патрыятычную нязломнасьць. Да гэтага у крыві Леніна плавалі ўсе азіяцкія расы. Пагэтаму ідэя зьмешваньня ўсіх народаў і рас, бяз навукова прадбачаных рэзультатаў такой ідэі, сталіся рухаючай сілай расейскага паталягічнага патрыятызма.

Па Марксу, для пралетарыята няма бацькаўшчыны. Каліб Маркс і Ленін былі жывымі то яныб былі найбольшымі ідэйнамі ворагамі. У Савецкіх энцыкляпэдыях пад патрыятызмам варта зьвярнуць увагу на такі сказ: „Вымога выхаваньня сацыялістычнаму патрыятызму, якіб гарманійна яднаўся із сацыялістычным інтэрнацыяналам ёсьць уключана да маральнага кодэксу будаваньня камунізму, які сфармуляваны ў праграме КПСС." Савецкі сярэдні грамадзянін ніколі не разумеў і не разумеіць бальшавіцкіх праграм і прамовы „вождей". Толькі ведаючы, што хаваіцца пад інтэрнацыяналізмам можна зразумець праўду. Калі пісьменьнік у СССР дастаткова хітры тады ён можыць напісаць фікцыйны твор, які адпавядаіць мроям вождей, за што можыць выслужыцца. Той хто не здагадаіцца, што спачатку трэба вынюхаць закулісься расейскага бальшавізма а лезіць у іх палітыку, як ідэаліст то, як правіла заплаціць галавой. Паставім пытаньне пісакам праграм КПСС і возьмем факты. Якая гармонія ёсьць паміж кітайскім патрыятычным сацыялізмам і бальшавіцкім патрыятычным сацыялізмам, румынскім, югаслаўскім? Усе яны крычаць, што Маркс для іх Бог. Адзін на аднаго паказваюць, што не разумеюць дыялектыкі Маркса. Калі гэта так, як тады іхняю плутню можыць зразумець сярэдні грамадзянін гэтых краін? Уся прычына ёсьць тая, што Кітайцы і Расейцы эксплятуюць Маркса ня вызваліўшыся паталягічнага патрыятызма сваіх імпэратараў. Каб сьцьвердзіць праўду вышэйсказанага возьмем прыклады і паставім пытаньні. Што супольнага ёсьць паміж сацыялістычнымі патрыятызмамі Кітая і Расеі?

1. Абедзьве ёсьць кантынэнтальныя імпэрыі.
2. Сацыялістычны раб, як у СССР так і ў Кітаі апрануты ў рабскую сацыялістычную юніформу. Праўда Кітайцы апранулі ігорад у фуфайкі". Расейцы зрабілі гораду палёгкую дый апранаюць больш на заходні стыль.
3. Тэрор, чысткі, дыктатура ёсьць форма права ў абедзьвюх імпэрыях.
4. Абедзьве краіны маюць аднолькавыя эканамічныя сыстэмы і эканамічныя рэзультаты. Голад, беднасьць гэта залатое правіла марксысткай эканомікі. Трэба быць разумным каб краіну зрабіць багатай. Зрабіць народ галодным, беспраўным, бедным можыць і дурынь, і хворы.

Што розьніць а не еднаіць кітайскі „сацыялістычны" патрыятызм із такім самым расейскім?

Ані Маркс, ані Ленін ня розьніць іх. Што іх розьніць, гэта насьледства іхніх імпэратараў. Кітайцы хочуць назад тэрыторыю, якую калісьці расейцы адшчапілі ад іх імпэрыі. Мао захацеў йшчэ больш. Хоць не адкрыта але мы бачым, што кітайцы зажадалі каб лідарства інтэрнацыянальнага камунізма ішло вось па такой лініі: Маркс, Энгельс, Ленін, Сталін, Мао. Не падабалася гэта расейскаму паталягічнаму патрыятызму і яго чырвоным нацыстам -бальшавікам. Хоць мы нідзе не бачым, што Маркс даў манаполію на марксызм расейцам. Наадварот, ён перасьцерагаў марксыстаў перад расейцамі. Расейскі паталягічны патрыятызм ставіць пытаньне. Як гэта так, каб манаполія на інтэрнацыянальны камунізм перайшла із Масквы да Пекіна. Хоць небачна каб гэта было шкодна інтэрнацыянальнаму камунізму. Але не так думаюць Кітайцы. Насельніцтва Кітайскай Імпэрыі ёсьць пяць раз большае, як Савецка Расейскай Імпэрыі. Сваей культурай, кітайцы ёсьць старэйшыя ня толькі за Расею але і за Эўропу. Да гэтага адсутнасьць вольнай прэсы і дэмакрацыі ў таквзаных камуністычных краінах, якая маглаб змусіць вождей" кіравацца ідэяй а не паталягічным патрыятызмам іх папярэднікаў імпэратараў, дазваляіць дыктатарам чорнае называць чырвоным. Для КПСС трэба было рабіць кодэксы інтэрнацыянальнай патрыятычнай маралі ў практыцы а не на паперы. Напрыклад: у СССР расейцы іх культура і традыцыі не павінны былі быць дамінуючымі і абавязкавамі для астатніх народаў Саюза. Межы Расейскай Рэспублікі павінны былі быць згодна этнаграфічнага расьсяленьня расейцаў аня згодна бальшавіцкіх выкрутасаў із іх паталягічным патрыятызмам у межах РСФСР. У граматычным сэнсе слова саюз разумеіцца вольны із вольным. СССР мог быць такой дзяржавай і прыкладам інтэрнацыянальнага патрыятызма. Для гэтага трэба было: сталіцу СССР пабудаваць на паўдні Урала, як незалежны горад і як каардынацыйны цэнтар усіх рэспублік. Мяжа паміж Эўропай і Азіяй на паўдні Урала прыдалаб сталтцы сымбалічна інтэрнацыяналны цэнтар а ў прктыцы выконвалаб ролю саюзнай сталіцы. Вольная прэса павінна была быць на службе народа і ідэі, і кантролем для урадаў. Толькі пры такой сы-

стэме можна пазьбегнуць культа асобы, дыктатуры і дзяржаўнага манапалізму із паталягічным патрыятызмам дамінуючай нацыі. Сацыялізм у Швэцыі ёсьць найлепшы прыклад і доказ, што калі сыстэма апраўдвае сябе тады ей непатрэбна баяцца апазыцыі. Мова эспіранту альбо падобныя ёй маглаб еднаць ня толькі рэспублікі але інтэрнацыянальны патрыятызм. Кітайцы і Расейцы робяць усё наадварот. Лепш кажучы, паталягічны патрыятызм іх імпэрый не еднаіцца ў інтэрнацыянальны патрыятызм. СССР і Кітай дзеюць супроць Маркса! Маральны кодэкс „сацыялістычнага патрыятызма" КПСС ёсьць кусок паперы із галавы,якая ёсьцьхворая напаталягічны патрыятызм . А каб йшчэ раз падцьвердзіць, што гэта ёсьць так, то прывядом вось такія прыклады. Крамлёўскія чырвоныя нацысты намаўлялі капіталістаў Захада, каб супольна падняць вайну супроць такіх самых чырвоных нацыстаў Кітая. Тут паталягічны патрыятызм расейцаў прадэманстраваў сябе, як ніколі. Маркс, як вядома, цалкам ськіваваў вайну супроць капіталізма. А яго эксплятатары расейскія чырвоныя нацысты–бальшавікі ськівавалі вайну супроць свайго ідэйнага брата. Сёньня паталягічны патрыятызм Кітая і Расеі адмаўляюць ў іх імпэрыях прыроднага права рабскім рэспублікам, якія яны эксплятуюць. Напрыклад, што яны вырабляюць із Казахстанам?! Як той воўк і шакал, напалі адзін за галаву а другі за хвост і жывот дый душаць асыміляцыяй і поўным зьнішчэньнем гэтага народа. Расейска-кітайскія генасыды не адсталі на адзін сантымэтар ад галоднага на лебенсраўм нямецкага нацызма.. Калі лебенсраум меў хоць нейкае апраўдваньне для немцаў, то якое апраўдваньне маюць расейцы і кітайцы ў сваей крымінальнай палітыцы да Казахстану!? У дзень чырвонай арміі, не скрываючы ад сьвету, былі ліквідаваны рэспублікі Паўночнага Каўказу, Татары крыма. На іх мейсцы завозяцца іншыя народы імпэрыі дый асымілююць іх расейцамі. Нікому невядома каб інтэрнацыянальны кодэкс сацыялістычнага патрыятызма, хоць калі, запісаў генэсыдычны дазвол із правам экзэкуцыі расейцамі і іх яначырамі . У атаку!!!: на фронце, у эканоміцы,ці ўзбунтаваны народ а то проста із-за страху, ня гледзячы якой-бы людзкой цаной каштавала для „величия" Расеі было правілам цароў у пабудове імпэрыі, у пабудове новай сталіцы Петраграда; было і ёсьць правілам „вождей" у пабудове Беламор канала і наагул у пабудове ўсіх „сацыялістычных" новабудоўляў. Эканамічная атака на Сібір, Казахстан, адразу посьле вайны быў паталягічны прыпадак „сацыялістычнага" патрыятызма які захварэў на расейскі паталягічны патрыятызм. Ані эканамічны паваенны стан Эўрапэйскай часткі СС СР, ані прыродныя ўмовы Сібіру і Сярэдняй Азіі, ані навуковыя дасьледваньні гэтых краёў не дазвалялі для нармальна думаючага ўраду, а тым больш калі ён прэтэндуіць, што дабрабыт яго грамадзян ёсьць перш за ўсё. Палавіна тэрыторыі Манголаў належыць да Кітая, добрая частка Карэі належыць да Кітая, невялікая частка Карэі належыць да Савецка Расейскай Імпэрыі. Чаму СССР і Кітай няхочуць абеднаць гэныя рэспублікі? Яны ёсьць паміж Кітаем і СС СР, ім не пагражаіць небясьпека іх суседзяў. Йшчэ раз бачым, што расейскія бальшавікі і чырвоныя кітайцы ня кіруюцца нават тымі кодэксамі якія яны самі пішуць. Імі кіруіць хворы патрыятызм дамінуючай нацыі ў іх імпэрыях!

Посьле такога апісаньня аб патрыятызме немагчыма абмінуць усім нам ведамыя чужыя словы, як: шавініст, яначыр. Шавінізм гэта звышпатрыятычнае пачуцьцё і паводзіны французкага салдата Шовэна ў Напалеонаўскай арміі. Нам добра памятаецца паводзіны нямецкіх салдат да насельніцтва і палонных. Савецкая армія ёсьць апанавана расейскім шавінізмам. Напрыклад шавіністычныя а не інтэрнацыянальныя паводзіны расейска савецкіх салдат і афіцэраў: „Россия, как много мы для тебя сделали! Ты никогда такой великой небыла!" „Россия, ты никогда небыла и не будеш побеждённой". Тут ня лёгіка а звышпатрыятызмкіруіць розумам савецка расейскага ваяку, так як і Шовэнам кіраваў. Для Шовэна гэта магчыма было і нармальна так як яго ня вучылі інтэрнацыянальнаму патрыятызму. Крамлёўскія нацысты і рабаўладальцы аб гэтым добра ведаюць. Чамуж яны тады надзелі „савецкае" войска ў традыцыйную расейскую форму? Гэта шавініст Ленін абрэзаў тэрыторыю Беларусі да вялічыны кукіша, каб толькі Расею бачыць вялікай і моцнай. Нічога дзіўнага, што савецкія энцыкляпэдыі прысьвяцілі цэлую бачыну шавінізму, каб толькі выкруціцца ад праўды. Яначыры паходзіць ад турэцкага слова, што значыць новае войска , якое Турцыя фармавала із ваеннапа-

лонных. У 15 стагодзьдзі туркі ў сваей імпэрыі падбіралі моладзь із хрысьціян, як сербаў і балгар, змушалі да Ісламу дый выхоўвалі ў духу мусульманскага фанатызму, для янычырскага корпуса. У нашае стагодзьдзе янычырства практыкавалі нямецкія чорныя нацысты і савецка расейскія чырвоныя нацысты сярод народаў Эўропы.

А цяпер да зьместу ліста. Не беларускае насельніцтва, як вы пішыце а нямецкія акупацыйныя ўлады арганізавалі паліцыю і самаабарону, каб зьдзіраць апошні кажух із вашыма для нямецкага салдата, каб адабраць апошні кусок хлеба ў абрабаванага маскоўскімі дывэрсантамі Беларуса, каб замацаваць „лебенсраўм" для акупанта, каб выганяць моладзь на працу да нямеччыны дзе кармілі бручкай і вадой. Вось усё гэта зразумелі тыя, што спатыкалі немцаў дый зьненавідзелі іх і іх памагатых. Рэдактар „Веча" а цяпер „Вялітва" ніколі вас і такіх, як вы не называў здраднікамі. Гэта савецкая прапаганда акупавала вашыя мазгі, а вы ня думаючы выплюхваіце тое, што вам надаела слухаць.

Далей вы пішыце„ **Украінцы, Беларусы і іншыя народы стараліся мець незалежнасьць а ў першаю чаргу асвабадзіцца ад іга. Пагэтаму яны былі гатовы біць бальшавікоў хоць-бы ў саюзе із дзьяблам".** На маю думку гэта называецца мастурбацыя мазгам праз уласаўшчыну і падобных на яе. Мець саюз хоць із дзьяблам каб асвабадзіцца ад бальшавікоў можа і ня дрэнная ідэя. Але быць наймітам у дзьябла супроць такогаж самага дзьябла робіць вялікаю розьніцу . Частка расейскай інтэлігенцыі і расейскіх генэралаў якія былі на службе ў Гітлера мелі мроі сваіх пажаданьняў, што посьле пабеды над Сталінам яны прагоняць Гітлера. Так думаць маглі толькі інтэлектуальныя грынгорнс. Сярод Беларускай Патрыятычнай інтэлігенцыі была надзея на саюзьнікаў, што посьле пабеды над Гітлерам заходнія дзяржавы не здадуць на лёс Масквы Цэнтральную Эўропу. Тут логікі было больш. Што да паліцаяў, беларусаў у савецкай партызанцы альбо ў власовскіх фармацыях то былі янычыры ў поўным значэньні гэтага слова.

А вось йшчэ адзін вынашаны сказ паваеннай эміграцыі, які вы паўтараіцеэ такім запалам **„Ня віна ў тым, што нацысты прышлі да нас, як акупанты і не зразумелі пажаданьні савецкіх рабоў".** Нешчасная вы людзіна, калі па сёньня не зразумелі тое, што бачылі сваімі вачыма. Немцы добра нас разумелі, бо інакш яны не падстаўлялі- б сябе, як„ освободителей". Іншая справа, што яны былі не тактычнымі дый паказалі свае сапраўдныя замеры. Праваслаўная і каталіцкая веры, якімі кіруюць чужынцы, атруцілі Беларускі Патрыятызм, пусьцілі дым ілюзіі, што Беларуса будуць „освобождаць" із неба і на зямлі. Усё што нам засталося гэта чакаць і дапамагаць „освободителям". Чужынцы заўважылі гэта даўно. Згубіўшы патрыятызм, Беларус зрабіўся індывідуалістам , церпіць голад і холад, зносіць зьдзекі за якія часта мсьціцца на суседу; за голад і холад праклінаіць свае балоты і Беларусь, а не акупантаў, янычыроў і калябарантаў.

Што да палонных, то трэба сказаць: іх памылка была вялікая а цана йшчэ большая! Трэба было не здавацца ў палон а рабіць высілак каб вымесьці із Крамля расейскі нацыянал–марксызм( бальшавізм) . Лепшага мамэнту ня было, як вайна і зброя ў руках. Савецкая інтэлігенцыя на гэты раз паказала сябе няздольнай перад народам і безадказнай перад гісторыяй. Шкада, што вы не бачылі тое, што рабілася ў тылу чырвоных тыранаў. Аднаго не разумею, дзе вы вычыталі, што я савецкіх палонных называў здраднікамі? Выгледаіць, што вы ня думалі аб чым пісалі.

**„Вы др. Маркоўскі радзіце беларускай інтэлігенцыі і актыву пашыраць беларускую матэрыяльнаю ідэю. Пад гэтым выказваньнем я разумею–беларускі нацыяналізм."** Не выгледаіць, што вы знаіце розьніцу паміж нацыяналізмам, патрыятызмам і нацызмам. Нічога мне не застаецца, як паказаць вам тлумачэньне гэных слоў праз нашых акупантаў і дэмакратычных дзяржаў, дзе мы із вамі пражываем, дый вытлумачыць вам і такім, як вы інтэлігентам. „Амэрыкан Калэдж Дыктчыонэры" тлумачыць вось так: нацыяналізм: 1 пачуцьцё, нацы пачуцьцё, амбітныя жаданьні. 2 прысьвяціцца інтарэсу сваей собскай нацыі. 3 амбіцыя нацыянальнага пяршынства альбо незалежнасьці. 4 Палітыка якая ставіць інтарэс свайго народа вышэй чым інтарэс другога народа альбо ўсіх народаў. 5 Ідыём альбо асаблівасьць нацыі. 6 палітыка нацыяналізацыі ўсей індустрыі.

А вось, як тлумачыць нацыяналізм „Беларуская Савецкая Энцыкляпэдыя". Нацыяналізм, буржуазная ідэалёгія і палітыка ў нацыянальным пытаньні, якая грунтуецца на перабольшваньні нацыянальных рысаў, выпрацоўцы і культываньні пачуцьцяў перавагі, выключнасці адных нацый перад другімі. Нацыяналісты разглядаюць нацыю як вышэйшую, надкласавую форму сацыяльнай супольнасьці, гісторыю чалавецтва–як пастаянную барацьбу нацый, у працэсе якой нібыта „вышэйшыя" і „паўнацэнныя" нацыі перамагаюць „ніжэйшыя" і „непаўнацэнныя" і кіруюць імі. Пры гэтым інтарэсы буржуазіі выдаюцца за агульнанацыянальныя .

Нацызм–прынцыпы альбо спосабы нацыстаў. Так тлумачыць „ Амэрыкан Калэдж Дыктчыонэры". У Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі слова нацызм адсутнічаіць. Бальшавікі пабаяліся пералічыць спосабы нацыстаў, так як чырвоны нацызм мог- бы пераважыць чорны нацызм на вясох праўды. Да гэтага, БСЭ прынцыпы нацызма дапасавала да нацыяналізма. Вось так бальшавікі засьмечваюць гуманітарныя навукі а гэтым самым робяць калеку із савецга інтэлігента. Хачу зьвярнуць вашу ўвагу, што на Захадзе дэфініцыя„нацыяналізм" у асноўным адпавядае дэфініцыі„патрыятызм". У дзяржаве пабудаванай на нацыянальным прынцыпу, патрыятызм ёсьць самая стойкая маральная скала для тых хто хварэіць на паталягічны патрыятызм каб завалодаць сьветам. Вось гэта яны і стараюцца пасыпаць інтэлектуальным сьмецьцем мараль, ідэю дзяржавы які пабудаваны на нацыянальным прынцыпу. Паўстаець пытаньне? Чаму БССРаўскі інтэлігент на Захадзе і падобныя яму баяцца беларускага нацыяналізму? Як вядома, на Захадзе расейская эміграцыя той самай думкі, як і расейскія бальшавікі. Гэта значыць, што паміж нацыяналізмам і нацызмам няма розьніцы. Беларускую эміграцкую прэсу рэдагуюць людзі якіх „патрыятызм" лучыць із БССРаўскім інтэлігентам. Тыраж усяго 500–1000 намяроў раз на месяц альбо 2–4 разы на год. Чужая прэса чытаецца штодзённа. Вось гэта яны пудзяць беларускім патрыятызмам два міліёны Беларускіх Эмігрантаў. Да гэтага трэба не забывацца, што царскія палітрукі( расейскае сьвятарства), польскія ксяндзы сыплюць інтэлектуальнае сьмецьце каб забрудзіць нашае нацыянальнае адраджэньне. Беларускага Патрыёта немагчыма назваць нацыстам! Мы не жадаем будаваць эканоміку Беларусі за кошт эксплятацыі іншых народаў. Так толькі рабілі і робяць чырвоныя і чорныя нацысты Расеі і Нямеччыны. Патрыёт дзяржавы пабудаванай на нацыянальным прынцыпу жадаіць сваім ворагам тое, што і сам сабе–воля для народа, незалежнасьць для нацыі. А гэта так, як нас вучыць Біблія.

Із аднаго боку вы пішыце аб сьветавой небясьпецы сыяністкіх фінаннсістаў. Штосьці спрабуіце сказаць аб недахопах усіх рэвалюцый. У мяне заўважылі злыя замеры, што я прапагую гаспадарчы і праўны парадак сярод Беларусаў. Усё гэта не маіць аніякай інтэлектуальнай сувязі ў вашай пісаніне. Фінансы, асабліва на Захадзе, іграюць вялікаю ролю. Чамуж два міліёны Беларускіх Эмігрантаў не маглі арганізаваць і разьвіваць свой фінансавы інтарэс? Калі арганізаваная эканамічная палітыка ёсьць добрай для сыяністаў, чаму яна тады ня можыць быць добрай для нас Беларусаў? Рэвалюцыі правальваюць, таму што не маюць сваіх ясных гаспадарчых і праўных ідэй. Клясычнай такой рэвалюцыяй была Расейская Рэвалюцыя 1917 года. На разьюшаных жаданьнях рэвалюцыянэраў, да перамогі прышоў контрарэвалюцыянэр, абманшчык рэвалюцыі, расейскі нацыянал марксыст Ленін , які зьвіў гняздо ў Крамлі для чырвонага расейскага нацызма( бальшавікоў) . Каб не рабіць памылкі рэвалюцый, каб не рабіць вашыя „патрыятычныя" памылкі я і разьвіваю гаспадарчую, праўную ідэю сярод Беларусаў а гэтым самым частку маральнай сілы патрыятызма. Апошнюю вашую просьбу задавальняем. Гэты часапіс перасылаем вам, як адказ на ваш ліст.

*Заканчэньне. Каліб такіх Беларусаў, як гэты БССРаўскі інтэлігент і „патрыёт" было толькі 2 ці 3, то не варта было- б траціць часу і паперы. Бяда тая, што новая паваенная эміграцыя 90% ёсьць такой. Такі самы процант някультурных і няпісьменных палітыкаў із партызан і актывістаў узгадавала „савецкая" ўлада. У Беларусаў гэта самая жахлівая праблема. Найгоршае, што за мяжой, дзе ёсьць магчымасьці, ніхто нічога ня робіць над гэтай праблемай. А гэта называецца капітуляцыя перад сьмерцю. Для індывідума, магчыма, што бездапаможна. Капітуляцыя перад сьмерцю для нацыі гэта ёсьць сорам, безадказнасьць!!*

## НЯХАЙ ЖЫВЕ САПРАЎДНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ПЕСЬНЯ

Кожны чалавек мае права мець свае думкі і погляды на розныя рэчы ў сваім жыцьці і адзначаць іх карысьць і каштоўнасьць для свайго народу. Зразумела, што зьмест і каштоўнасьць гэных выказваньняў залежыць непасрэдна ад асьветы, духоўнага аблічча і разумовага кругазору.

Гэтыя думкі навеяны двума артыкуламі ў газэце „Беларус", адзін з іх змешчаны ў кастрычнікавым нумары, нашага ведамага Народнага Артыста Беларусі В. Селяха-Качанскага пад загалоўкам „Народная Беларуская песьня, хто і як яе на чужыне рэпрэантуе". У гэтым артыкуле аўтар, як высока кваліфікаваны прафэсыянал адзначыў абгрунтавана, што жаночы 2-4 галосны хор „Каліна" ў сваіх выступленьнях робіць ня тое, што павінен рабіць, калі ён хоча быць сапраўднай Беларускай Мастацкай Арганізацыяй. Тут-жа ў гэтым артыкуле гасп. Качанскі дае дарогу-„Каліне"разам з вэтэранскім мужчынскім хорам далучыцца да чатырох галоснага царкоўнага хора пад кіраўніцтвам гасп. Верасава. З гэтых трох хораў гасп. Качанскі прапануе зарганізаваць сапраўдную чатырох галосную капэлу, як гэта ёсьць у нашых суседзяў-Ліцьвінаў, Латвійцаў і Ўкраінцаў.

На гэтую крытыку зьявіўся ў „Беларусе" у сьнежні) артыкул-адказ з нейкім урачыстым нібы заклікам-загалоўкам-„Няхай жыве „Каліна"! Штож можна сказаць на суперак гэтаму? Няхай жыве! Ніхто не збіраецца яе зьнішчаць! Алеж трэба дадаць да гэнага, што калі „Каліна" лічыць сябе мастацкай арганізацыяй дык павінна рэпрэзантаваць мастацтва-беларускую творчасьць, а не нейкі „Эрзац"-творы быццам знанага кампазытара-кіраўніка хору г. Барысаўца, творы, што не маюць у сябе ніякіх элементаў Народнага Беларускага.

Амаль усяму сьвету ведамы імёны мастакоў-кампазытараў, што даў Беларускі Народ. Гэта Глінка, Равенскі, Тэраўскі і іншыя, якімі наш народ мае права ганарыцца. А гэтакая двухгалосная, з савецкім душком „творчасьць", якая падаецца нібы беларуская, толькі падрывае рэпутацыю Беларускага Мастацтва. Аўтар( ці аўтары) хвалебнага артыкулу схаваўся( схаваліс ь) пад літарамі Ю. М.

Магчыма і не патрэбна было адказваць на гэную хлусьню і злосную бязглузьдзіцу. Але ў сувязі з намерам аўтараў ашукаць грамадзтва, зьявілася неабходнасьць даць абгрунтаванае паясьненьне асотных мамэнтаў.

Так аўтар( ы) лічаць, што вопратка „Каліны"-доўгія кашулі да пятаў зроблены па зразкаў аблачэньня Сьв. Еўфрасіньні Полацкай. Магчыма пісакі ня былі ў нашай царкве-там на відным мейсцы ёсьць абраз Сьв. Еўфрасініі, удала намаляваны а. пратадыяканам А. Махнюком. І зразак вопраткі „Каліны", як бачна ўзяты, а ні з абразу, а ні з мерцьвякоў, а з савецкага хору Шырмы, што ў Менску. А чаравічкі, кажуць нам-абутак толькі да танцаў. Значыцца беларускія жанчыны, і старушкі, і дзяўчаты, што носяць чаравічкі-усе яны танцоркі? А ці былі вы, паважаныя гаспадары, калісьці ў беларускай вёсцы?

А вось яшчэ „вялікамудрая" заўвага асобы якая нічога не разумеіць у музыцы, што двух чатырох галасовым дасягаецца лепшая гучнасьць чымся 4-4 галасовым. Ціж гэтая мудрагальства не „ослоумie", як зазначыў адзін старэйшы сьпевак.

Можна пагадзіцца із тым, што ў царкоўным хоры ня ўсё ідзе добра, алеж гэны хор не сьпявае пад фартэпіяно, тым болей, што ў чатырохгалосным хоры вельмі лёгка зрабіць памылку асабліва калі харысты не прафэсыяналы.

Няпраўда і тое што г. Качанскі „ня здолеў напісаць песьню нават на два галасы". „Песьня Волі" была напісана не толькі на чатыры галасы, а нават з падваёнымі галасамі і так яе насьпяваў на патэфонныя кружэлкі былы хор Д. К. пад кіраўніцтвам Качанскага разам з дваццаці двумя другімі песьнямі у 1956 годзе у студыі Р. С. А. Віктор. „Песьня Волі", як мне ведама, была перагарманізавана у два галасы толькі для жаўнерскага сьпеўніка, для якога Качанскі падабраў 116 песьняў. Усе яны пера-роблены на два галасы, каб гэтымі песьнямі жаўнеры маглі карыстацца у час паходу.

Яшчэ і яшчэ фальсіфікацыя! Мне давялось спаткацца з г. Качанскім 25 сьнежня у дзень яго нарадзін на яго кватэры. У нашай сэрдэчнай бяседзе(нас было пяць) было адведзена шмат увагі зьместу артыкулу Ю. М. І вось як грунтоўна на паставе фактаў асьвяціў гэную балбатню сам г. Качанскі. Не ён, як піша Ю. М. махнуў рукой на беларускае асяродьзе ды пайшоў рэгентам да расейскай царквы, а само асяродьзе штурхнула яго у час вельмі цяжкі матэр'яльна і у становішчы хворага.

Па трох гадох працы на фабрыцы ён вышаў на пэнсыён–62 даляры на месяц. А тут звалілась бяда–асьлеп на адно вока. Каб не страціць і другое неабходна апэрацыя на якую патрэбна было 700 даляраў. А дзе іх узяць? Качанскі пагадзіўся быць рэгэнтам у Мікалаеўскім саборы за 200 даляраў у месяц. Наш суродзіч др. М. Шчорс угаварыў знаёмага хірурга зрабіць апэрацыю за 300 даляраў. Пасьля апэрацыі Качанскі павінен быў рабіць у іншых расейскіх прыходах, таму што ніякая беларуская арганізацыя, а ні царква яму не дапамаглі. Царква ў Саўт Рывары хацела мець Качанскага за рэгента, але не магла выдзеліць яму нават 75 даляраў. Нейка аднака- ж дзіўна што рэдакцыя „Беларуса" узяла пад сваю апеку гэны хлусьлівы артыкул лічучы, бачна, што у ім усё адпавядае сапраўднасьці. А ўвесь артыкул гэны- зброя дзікароў, гэт. званы–„бумэранг", які выпушчаны без патрэбы не па належнаму прыцэлу у нейкага ворага, паварачваецца назад і бье па галаве таго, хто яго безсэнсоўна кінуў(бо ворага на тым мейсцы ня было).

„Кампазытар" Барысавец запоўніў Тарычэлеву пустату(якая да ведама Ю. М. не павінна запаўняцца, але ня ўсе ведаюць фізыку), і хору „Каліна" належыць нацыянальная падзяка–гэткая упэўненая рэляцыя выклікае у памяці клясычнае–„а судзьдзі хто?" І яшчэ у адказ на прыказкі, што у пачатку артыкулу:–„ня шукай у сяле, а пашукай у самом сябе!"

*Б. К.*

---



Із сумам паведамляем, што наша мама і бабка Кацярына Маркоўская(Рагач), на 75 гаду свайго жыцьця, пасьле цяжкай хваробы адыйшла на вечны супакой. Пахавана ў Форт Вэйне, штат Індыяна.

Пакойная была роджана ў пасёлку Красны Бераг, Іжанскай воласьці Вялейскага павету, які за часы яе маладасьці належыў да Літоўскай Праваслаўнай Царквы. Была маткай 9 дзяцей, із якіх трое памерлі малымі а шэсьць ёсьць у жывых.

Вечны Супакой, дзеці і ўнукі пакойнай

# ДА НАЗВЫ „ВЯЛІТВА”

Пераконваісьця ўсё больш і больш, што каб нашы Адраджэнцы, асабліва „Нашаніўцы” зрабілі колькасна палавіна у літаратуры, але праз літаратуру замацавалі назву „Літва” за намі, то можна было-б із перакананьнем сьцьвердзіць, што наш нацыянальны інтарэс быў-бы больш, як стагодзье наперад. Што здарылася ня верніш, але выправіць памылку якая шкодзіць нам па сёньня ёсьць абавязкам усіх нас.

Назва „Літва” замацавана за Лятувісамі, да гэтага гэта быўшая назва толькі аднаго племя. Каліж назва „Літва” маіць Славянскае паходжаньне то гэта добра, каліж Балцкае то хіба йшчэ лепш. Сёньня ня ёсьць сакрэтам, што Беларусы гэта нацыя Балтаў і Славян. „Вялітва” у такім выпадку рэпрэзэнтуіць скарочана ў адным два словы: славянскае Вялікая і балцкае Літва, аднача сна яно тлумачыць нашае нацыянальнае паходжаньне, этногенэзу, псыхічную прычыну палітычнага абеднаньня Балтаславянскіх княстваў у Вялікае Княства Літоўскае; якое было княства дабрахвотна абеднаных княстваў, бяз войнаў, дэмакратычна, падтрыманае народам праз ягонае Веча. Такім дагістарычна біялягічным і гістарычна палітычным фармаваньнем нацыі ня ўсе нацыянальнасьці могуць пахваліцца. Многім нават сорамна за сваё прошлае.

Пагэтаму, сёньня ці ў будучыні, незалежна ці Беларусь будзіць манархічнай, дэмакратычнай, дыктатурай; дзяржаўна нацыянальная назва „Вялітва” для Балтаславян (Беларусаў) адпавядаіць каб рэпрэзантаваць нашае прошлае, у міжчасе быць часткай ідэйнай праграмы ў барацьбе за Незалежную Бацькаўшчыну.

Хаця ідэя назвы „Вялітва” ёсьць простай і зразумелай, гарманічна із нашай гісторыяй і ня вельмі наступаіць на нагу тым, хто прысабечыў назву „Літва”, аднак і тут патрэбны час, патрэбна абмена думкамі. Для гэтай мэты назва часапісу і бібліятэкі „Веча” заменены на назву „Вялітва”.

*Рэдактар*

ПАМЯТАЙ, ПРАФЭСЫЯНАЛЬНЫ КАЛЯБАРАНТ ГЭТА ПАЛІТЫЧНЫ АПАРТУНІСТ, ІНТЭЛІГЭНТ БЯЗ ІНТЭЛІГЭНТНАЙ ІНТЭЛІГЭНТНАСЬЦІ, ЗДЭГЭНЭРАВАНЫ ПАТРЫЁТ СВАЙГО НАРОДА. „УРАД” АЛЬБО ПАЛІТЫЧНАЯ ГРУПОЎКА ІЗ ПРАФЭСЫЯНАЛЬНЫХ КАЛЯБАРАНТАЎ НЕ МАЮЦЬ СВАЕЙ ПРАГРАМЫ. ЯНЫ ЕСЬЦЬ І БУДУЦЬ БЫЦЬ ВЫКАНАЎЦАМІ ЧУЖЫХ ІДЭЙ. СЯРОД БЕЛАРУСАЎ ТАКІМІ ЕСЬЦЬ: „УРАД” БССР, „УРАД” ЭМІГРАНЦКАЙ БНР, БЦРаўскія ПАЛІТЫЧНЫЯ ГРУПОЎКІ НА ЭМІГРАЦЫІ.

ВЫКРЫВАЙЦЕ І ЗМАГАЙЦЕСЯ СУПРАЦЬ ПРАФЭСЫЯНАЛЬНЫХ КАЛЯБАРАНТАЎ, ДАПАСАВАНЦАЎ, АБЫЯКАВАСЬЦІ І ПАДКУПНІЦТВА!!!!

ЯДНАЙЦЕСЯ РЭВАЛЮЦЫЙНА Ў АДЗІНЫ ФРОНТ СУПРОЦЬ КОНТРАРЭВАЛЮЦЫЯНЭРАЎ У КРАМЛІ І ІХ ЯНАЧЫРОЎ!!

ПАТРЫЁТ І РЭВАЛЮЦЫЯНЭР ЁСЬЦЬ РАТУНАК АКУПАВАНАЙ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ І РАЗКРЫЖАВАНАЙ НАЦЫІ!!

ЗЬМЕСТ



ЧЫТАЙ І ПЕРАДАЙ

НАСТУПНАМУ

БЕЛАРУСУ!!

Адрыс ,,VIALITVA" Address

204 State Highway 18

East Brunswick, N.J. 08816

USA

Цана 1 даляр Telephone: (201) 249–2255 Price $1.00